# BIELARUS

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 12.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 12.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.


## РОСТ ЗАКАНАПАЎСТВА

**(Заканчэньне з б. 1-й)**

мінальнага кодэксу БССР, самавольная высечка лесу ў дзяржаўных або калгасных лясох цягнула за сабой крымінальную адказнасьць толькі тады, калі да асобы, якая ўчыніла злачынства, ўжываліся ўжо раней меры гэтак званага грамадзкага або адміністрацыйнага ўзьдзеяньня за гэткі самы від злачынства. Прасьцей кажучы, калі асоба незаконна насекла ў дзяржаўным або калгасным лесе дроў, дык на першы раз яна да крымінальнай адказнасьці не прыцягвалася — на яе ўзьдзейвалі мэтадамі грамадзкага або адміністрацыйнага выхаваньня (зразумела, асоба вымушаная была аплаціць кошт гэтых дроў). Цяпер-жа новы закон не прадбачыць папярэдніх выхаваўчых мераў: насёк дроваў — садзіся на лаву падсудных.

Узмоцненае крымінальнае пакараньне і за выкраданьне аўтамабіляў і за крадзеж асабістае маемасьці пайшло па шляху падвышэньня крымінальнай адказнасьці за цэлы шэраг злачынстваў і па шляху пашырэньня кола дзеяньняў, якія ўважаюцца дзяржавай за злачынныя.

А тым-жа самым часам савецкая праўная прапаганда працягвае цьвердзіць, што з далейшым разьвіцьцём сацыялістычнага грамадзтва злачыннасьць увесь час абніжаецца, што зьнікаюць сацыяльныя, маральныя ды іншыя карані злачыннасьці. Але гэтыя цьверджаньні выклікаюць глыбокія сумлевы. І вось чаму.

Найлепш довад якога-хаця цьверджаньня — гэта, як ведама, інфармацыя аб тым, наколькі гэтае цьверджаньне падтрымваецца практыкай. У дадзеным выпадку гэта была-б адкрытая падача статыстычных дадзеных, зь якіх было-б відаць абніжэньне злачыннасьці за пэўны пэрыяд часу.

Калі-б гэткае абніжэньне адбывалася ў запраўднасьці, дык такая статыстыка напэўна была-б пададзеная ў шырокім савецкім друку. Але крымінальная статыстыка ў Савецкім Саюзе дасюль яшчэ застаецца вялікай дзяржаўнай таямніцай. Гэта само па сабе ўжо довад таго, што справы ў пытаньні злачыннасьці выглядаюць зусім ня так, як пра гэта цьвердзіць праўная прапаганда.

І другое. Калі-б злачыннасьць у Савецкім Саюзе, у тым ліку й на Беларусі, з разьвіцьцём сацыялістычнага грамадзтва ўвесь час абніжалася, дык крымінальная адказнасьць павінна была-б таксама адпаведна абніжацца, і кола дзеяньняў, якія заканадаўцам уважаюцца за злачынныя, павінна было-б звужацца. А на практыцы, як бачым, усё адбываецца наадварот — і крымінальная адказнасьць узмацняецца і катэгорыя дзеяньняў, якія ўважаюцца за злачынныя, пашыраецца.

Гэта дае ўсе падставы цьвердзіць, што тэндэнцыя да падвышэньня злачыннасьці, якая апошнімі гадамі наглядаецца па шмат якіх разьвітых краінах сьвету, ня мінае і Савецкага Саюзу.

**А. Насовіч**

## ВЕРА РЫЧ У ЧЫКАГА

Ведамая ангельская паэтэса й перакладніца беларускае пэзіі Вера Рыч адведала Беларусаў Чыкага напрыканцы травеня сёлета. У нядзелю 27-га травеня група Беларусаў і Амэрыканцаў правяла спатканьне з паэткай. У залі пры царкве Хрыста Збаўцы адбыўся пасьля Літургіі абед, на якім паважаную гасьцю вітаў Біскуп Уладзімер Тарасэвіч, на запросіны якога паэтка й наведала Чыкага. Люся К. і Міхась В. уручылі Веры Рыч прыгожы букет ружаў.



**Маладняк уручае букет ружаў паэтэсе Веры Рыч.**

Др. Вітаўт Рамук расказаў пра літаратурную дзейнасьць Веры Рыч ды ейны ўклад у беларусаведу на Захадзе перакладамі зь беларускае літаратуры. Сама паэтка прыгадала пра свае першыя сустрэчы зь Беларусамі, гаварыла пра зацікаўленьне беларускай літаратурай, прачытала свае пераклады з анталёгіі „Як вада, як агонь". Чытаньне перакладаў зрабіла на прысутных вялікае ўражаньне.

Пасыпаліся розныя пытаньні да паэтэсы. Слухачы, асабліва Амэрыканцы, хацелі ведаць, які ляйтматыў у беларускай паэзіі. Паэтка сказала, што вельмі выразна ў беларускай паэзіі выступае ідэя, што з жыцьцёвымі цяжкасьцямі трэба змагацца да апошняга й ніколі не паддавацца. Прыгэтым Вера Рыч зацеміла, што паэт Максім Багдановіч, хоць і быў цяжка хворы, блізкі да сьмерці, не выяўляў аднак ніякае дэпрэсіі й адчаю ў сваіх творах.

На заканчэньне сп-ня Вера Рамук падзякавала Веры Рыч за натхнёнае чытаньне перакладаў, пажадала ёй плённае далейшае працы на ніве пашырэньня веды аб беларускай літаратуры ды перадала грашовы падарунак ад прысутных.

Трэба адзначыць, што паэтку вітаў таксама ў беларускай радыяпраграме „Нёман" кіраўнік гэтае праграмы сп. Нік Жызьнеўскі. Вера Рыч скарыстала таксама з запросінаў і пабывала на беларускім вясельлі, шлюбе сына сп-ства Сянькевічаў.

**Вітаўт Рамук**

## СУСТРЭЧА Ў СКАРЫНІНЦЫ

12-га верасьня сёлета ў памешканьні Бібліятэкі імя Фр. Скарыны ў Лёндане адбылася сустрэча з загадчыкам Катэдры беларускай філялёгіі Варшаўскага Унівэрсытэту й старшынём Беларускага Грамадзка-культурнага таварыства ў Польшчы др. Аляксандрам Баршчэўскім (паэтам Алесем Барскім) ды з навуковым супрацоўнікам Катэдры беларускай філялёгіі др. Зофіяй Ськібінскай.

Сустрэча зь беларускімі філёлягамі выклікала вялікае зацікаўленьне ня толькі мясцовых Беларусаў, але таксама й з далейшых мясцовасьцяў. Пашчасьціла нам таксама гасьціць тут праф. Ант. Адамовіча й др. Віктара Сянькевіча. Апрача беларускага грамадзтва, на вечары былі прыяцелі Беларусаў іншых нацыянальнасьцяў, сярод іх др. Шырын Акінэр, заслужаная працаўніца на полі беларускай літаратуры, ды іншыя.

Сустрэчу адкрыў праф. Дж. Дынглі, старшыня Англа-Беларускага Таварыства. Зь вялікай прыемнасьцяй аўдыторыя слухала прывітальныя словы праф. Дынглі, сказаныя ім пабеларуску. Ад ЗБВБ прачулым словам вітаў гасьцей сп. А. Зданковіч, заступнік старшыні ЗБВБ.

Др. З. Ськібінская прачытала даклад на тэму „Пераклады твору А. Міцкевіча ,Пан Тадэуш', пачынаючы ад В. Дуніна-Марцінкевіча й канчаючы на Я. Семяжону". Аналізуючы ўсе пераклады, дакладчыца цытавала ўрыўкі з паэмы ў арыгінале і ў адпаведных перакладах. Асаблівую ўвагу др. Ськібінская прысьвяціла Браніславу Тарашкевічу і ягонаму перакладу „Пана Тадэуша". Б. Тарашкевіч рабіў гэты пераклад у міжваеннай Польшчы, калі Заходняя Беларусь змагалася за сваю свабоду, і, як зазначыў др. Баршчэўскі, Тарашкевіч перакладаў паэму ў турме, дзе ня было паперы й даводзілася пісаць на папяровых мяшкох ад цымэнту ды шмат перакладу рабіць з памяці.

Др. А. Баршчэўскі ў сваім прывітальным слове сказаў, што ён сюды прыехаў ужо аж пяты раз, але кожны раз ён знаходзіць у Бібліятэцы пэўныя працы-творы, якія прыцягваюць ягоную ўвагу.

Інфармуючы пра беларускія праблемы ў сучаснай Польшчы — беларускае школьніцтва на Беласточчыне, пытаньне беларускага музэю — др. Баршчэўскі сказаў, што для навучаньня беларускае мовы сяньняшнія ўмовы ідэальныя, бо нават там, дзе ёсьць пяць вучняў-ахвотнікаў, дзяржава гатовая паставіць настаўніка беларускае мовы ды аплаціць усе кошты навучаньня. Праблема навучаньня роднае мовы, сказаў др. Баршчэўскі, палягае ў тым, што бацькі самыя — занядбоўваюць гэта.

Што да беларускага музэю на Беласточчыне, дык справа сталася больш складанай ад тае пары, калі тагачасныя ўлады перавезьлі музэй у Цехановец. Шмат чаго вартаснага для музэю яшчэ перахоўваецца пад страхой селяніна, сказаў др. Баршчэўскі, аднак селянін лепш будзе трымаць у сябе пэўныя экспанаты, як аддаць іх некуды ў край, характар якога не супадае з духам людзей Беласточчыны.

Сяньня справы пайшлі на лепшае. Ёсьць магчымасьць мець музэй на Беласточчыне, толькі патрэбныя матар'яльныя сродкі. Сам А. Баршчэўскі ахвяраваў у фонд пабудовы музэю аж 20.000 злотаў пры сваім месячным заработку 15.000 злотаў.

Выказваньні дакладчыка аб сучасным стане ў Польшчы былі ўспрынятыя некаторымі слухачамі, як залішне прарэжымаўскія..

На запытаньні слухачоў аб магчымасьцях беларусізацыі праваслаўнае й каталіцкае цэркваў на Беласточчыне др. Баршчэўскі сказаў, што на перашкодзе стаіць галоўна духавенства абедзьвюх цэркваў.

Баршчэўскі-Барскі прачытаў колькі сваіх вершаў, у тым ліку цудоўны верш „Маці", а таксама свае глыбака філязофскія афарызмы, што друкуюцца ў газэце „Ніва". Паэт сказаў, што атрымаў за вершы добрыя два „ганарары": адзін той, што чалавек прыехаў паслухаць яго за 200 міляў, а другі — што слухач заплакаў, слухаючы верш.

Выказваючы падзяку праф. Джэймсу Дынглі за дапамогу ў наладжаньні сустрэчы, др. Баршчэўскі запрасіў яго да сябе ў Варшаву.

Праф. Дынглі падзякаваў др. Ськібінскай і др. Баршчэўскаму за цікавыя выступленьні ды выказаў надзею на прыезд да Беларусаў у Лёндан з Польшчы іншых навукоўцаў і літаратараў.

Сустрэча скончылася пры чарцы віна й сьціплай закусцы, пакінуўшы па сабе найлепшае ўражаньне.

**А. Зданковіч**

## ЛІСТ ДА ЕПІСКАПА ЕРЭМІЯ

**Ад Рэдакцыі:** Ніжэй зьмяшчаем, прысланы нам навакольным шляхам з Польшчы, ліст жыхара Беласточчыны да Епіскапа Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Ерэмія, рэфэрэнта вонкавых сувязяў ПАПЦ. У лісьце ўздымаецца пытаньне беларускае мовы ў рэлігійным жыцьці „праваслаўных Палякаў".

Прозьвішча аўтара ліста не падаём, ня маючы на гэта ягонае згоды.

Высокадастойнаму й Паважанаму Епіскаму Ерэмію.

Зьвяртаюся да Вас са справай, якая для кожнага Беларуса здаўна ёсьць набалелай і якая надалей застаецца ня вырашанай. Гэта справа мовы ў нашай Царкве.

Асьмеліла й заахвоціла да напісаньня пісьма Вашае выказваньне, зьмешчанае ў першым нумары квартальніка „Бюлетын інформацыйны" пад загалоўкам: „В справе ензыка в нашым Косьцеле". Шчыра прызнаюся, што пасьля прачытаньня гэтага кароткага тэксту, далёка ня ўсё мне стала ясна. Наадварот, на маю думку, многа ў ім недагаворанага да канца, у сувязі з чым узьнікаюць сумненьні й пытаньні, а, што горш, слоў Вашых не пацьвярджае штадзённая практыка Царквы.

На пачатак дазволю сабе зьвярнуць Вашу ўвагу на такую дробязь, што паміж мовай зразумелай, а дарагой выступае часта пэўная розьніца. Менавіта такая, што ня кожная мова зразумелая ёсьць абавязкова дарагой. Зразумелых моваў можа быць нават і некалькі, калі дарагой бывае найчасьцей толькі адна — мова бацькоў. Калі так, то чаму „зразумелая і дарагая" мова многіх вернікаў — мова беларуская — ня мае доступу да нашае Царквы. Гэта-ж бясспрэчны і ўсім добра ведамы факт. Мала тут Вашых слоў, цытую: „ензыкіем Косьцёла можэ быць кажды ензык", калі ў практыцы аказваецца, што магчымы кожны, аднак . . . за выключэньнем мовы беларускай.

Хто мае ў гэтай справе паклапаціцца? — Улада? — Атэісты ці можа, Рымскі Папа? Хіба-ж ясна, што самая Царква толькі, і больш ніхто. На што тут яшчэ чакаць і як доўга прыйдзецца?

Ці трэба скандалаў дзеля таго, каб зьвярнуць увагу царкоўных ерархаў на ненармальнасьць, больш — амаральнасьць сытуацыі.

Далей, праўда, чытаем наступнае: „В зьвёнзку з тым подэймованэ соў прубы пжэкладув тых пжэпенкных і глэнбокіх тэкстув на ензык польскі, украіньскі, бялорускі". Аднак, дзе-ж канкрэты? Выбачайце, але гэта таксама толькі словы, якія маюць супакоіць тых, хто зь дзіўнай практыкай Царквы проста не пагаджаецца, і думаю, што Вам пра гэта ведама.

А канкрэты менавіта такія, што ва Ўроцлаве для дзесяці, няхай для пятнаццаці асобаў зробленыя неабходныя пераклады на польскую мову і сьпявае там нават прафэсіянальны хор зь фільгармоніі. Ведама, не задарэмна. Хто за гэты каштоўны экспэрымэнт плаціць, застаецца пакуль сакрэтам.

Для тысячаў Беларусаў, для іхнае мовы, ня зроблена на працягу доўгіх гадоў дакладна нічога. Чаму? Ці мова беларуская ўсё яшчэ да гэтага не дарасла?

Вам, думаю, таксама ведама, што на чужыне, дзе існуе беларуская Праваслаўная Царква, даўно зробленыя ўсе неабходныя пераклады. Ці не прасьцей было-б скарыстаць з ужо існуючых перакладаў (калі яны, зразумела, не гэрэтычныя)?

А калі гэрэтычныя, то хто ў нас мае нібыта рабіць беларускія пераклады, калі ведама, што ні ў Праваслаўнай Сэмінарыі ні ў праваслаўным аддзяленьні Хрысьціянскай Тэалягічнай Акадэміі беларускае мовы не навучаюць? Няўжо перакладамі маюць займацца беларускія анальфабэты? Ім у такой працы нават і . . . малітвы не памогуць.

Справа перакладаў літургічных тэкстаў, ведама, складаная й патрабуе шмат часу, з чым нельга не згадзіцца, яна нават і ня самая пільная. Далёка больш неспакоіць што іншае, і тут чарговыя пытаньні. Першае: чаму да гэтае пары ня выдадзена самага скромнага й неабходнага падручніка для беларускіх дзяцей, так званай катэхізмоўкі? І другое: чаму праваслаўныя сьвятары, нават у вёсках Беласточчыны, дзе да гэтай пары ня знойдзеце са сьвечкай і аднаго „праваслаўнага Паляка", дзяцей навучаюць Божага Слова, штораз часьцей — папольску? Пытаньня ў гэтай справе выкручваюцца або недахопам адпаведных падручнікаў, або тым, што ня ведаюць добра беларускае мовы (бо й дзе маглі яе навучыцца?).

Мог-бы хто сказаць, што вырашае тут справу т.зв. моўны ўтылітарызм, калі-б ня тое, што найчасьцей аднак можна пачуць зусім кур'ёзны адказ, менавіта, што яны прапагандай нацыяналізму (ведама, беларускага) не займаюцца. Паводля іхнай рабскай лёгікі, зьвяртацца да дзяцей у мове іхных бацькоў абазначае: займацца прапагандай нацыяналізму. Гэта лёгіка тых, якіх маральны і інтэлектуальны кругагляд найлепш адлюстроўвае славутая пагаворка: „на мой век дурняў хопіць". Як такога роду падыход пагадзіць з апостальскай традыцыяй, на якую спасылаецеся ў сваім выказваньні?

Навучаньне Божага Слова беларускіх дзяцей папольску абазначае ня толькі — як гэта цвердзяць т.зв. апалітычныя — займацца выключна рэлігійнымі справамі. Нельга тут не заўважыць і яшчэ аднаго цесна зьвязанага з гэтым аспэкту. Выбачайце, але яны (т.зв. апалітычныя) займаюцца адначасна і дэнацыяналізацыяй Беларусаў ад наймалодшага веку. Дакладна так! У імя чаго, якіх прынцыпаў і якіх традыцыяў?

А можа робяць гэта не зь перакананьня, а са страху? Перад кім і чым? Хіба-ж не перад Богам.

Прызнаньне беларускай мове належнага ёй месца і ахова яе як самай цэннай духоўнай вартасьці народу хіба не пагражае еднасьці Царквы. Пішу пра гэта не бяз прычыны, так як і такога роду „аргумант" здараецца пачуць. Калі зробленыя захады для выданьня яшчэ аднаго часапісу для „праваслаўных Палякаў", то чаму не паклапаціцца ў справе выданьня . . . хоць аднаго і самага скромнага часапісу для таксама праваслаўных — Беларусаў. Ці забараняе таго ўлада?

Як ні дзіўна, Праваслаўная Царква ў сваіх адносінах да беларускае мовы й культуры ў нічым якраз ня розьніцца ад каталіцкага Касьцёла, які Беларусаў проста не прызнае, і гэта таксама традыцыя.

У заканчэньні майго пісьма, прашу выбачэньня за словы горкія і, магчыма, не заўсёды справядлівыя. Калі я ў чым ня маю рацыі ці бо памыляюся, прашу, калі ласка, напісаць пару слоў дзеля асьведамленьня з фактычным ходам закранутых мною справаў.

Буду шчыра ўдзячны.

З пашанаю
(Подпіс)

12-га красавіка 1984 году.

## „ТЫГОДНІК МАЗОВШЭ" ПРА БЕЛАРУСЬ

У Польшчы, як ведама, квітнее падпольная, непадцэнзурная выдавецкая дзейнасьць — там зьяўляецца каля тысячы самвыдавецкіх публікацыяў. Адна з такіх публікацыяў „Тыгоднік Мазовшэ", рэгіянальны орган забароненага цяпер польскага незалежнага прафсаюзнага аб'яднаньня „Салідарнасьць".

У 84-ым нумары часапісу „Тыгоднік Мазовшэ", датаваным 11-ым красавіка 1984 г., зьявіўся артыкул пра Беларусь.

Пра добразычлівы тон артыкулу гаворыць ужо ягоны загаловак: „Беларусь — Добрарусь". Невядомы аўтар не стварыў сам „Добрарусі" — ён цытуе польскага пісьменьніка Тадэвуша Канвіцкага, які ў адным з сваіх твораў гэтак узьнёсла зьвяртаўся да Беларусі: „Ты павінна-б называцца Добрарусьсю, павінна-б называцца Добрай Зямлёй Добрых Людзей . . . Беларусь, Беларусь, шэразялёная зь вялізарным небам над русай галавой — задобрая, заветлая, завысакародная ты на нашы часы . . ."

Аўтар артыкулу у „Тыгодніку Мазовшэ" інфармуе сваіх чытачоў пра жыхарства й тэрыторыю Беларускае ССР, адзначае прыгэтым, што значная частка этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі знаходзіцца цяпер у межах РСФСР.

Пасьля ідзе кароткая гістарычная даведка: пра этнічнае паходжаньне Беларусаў, іхнае ўваходжаньне ў склад Вялікага Княства Літоўскага і Рэчыпаспалітай.

Гэтак званае „вызваленьне" Заходняй Беларусі, — піша далей польскі аўтар, — таксама ня прынесла дабра ейнаму насельніцтву, як ня прынесла дабра й савецка-нямецкая вайна, у выніку якое загінула звыш двух мільёнаў Беларусаў, ня лічачы ахвяраў сталінскага тэрору па вайне. Аднак усё гэта не патушыла духу смастойнасьці, які асабліва жывы ў сфэры культуры. Беларуская літаратура пачала ўсё больш рашуча бараніць свае нацыянальныя інтарэсы.

Аўтар артыкулу „Беларусь-Добрарусь" не забыўся і пра беларускую нацыянальную меншыню ў сучаснай Польшчы, адзначаючы, што палітыка сучаснага рэжыму ў дачыненьні да гэтай меншыні на дзіва супадае, як ён піша, зь перадваеннымі дэнацыяналізатарскімі тэндэнцыямі.

На заканчэньне свайго артыкулу аўтар піша: „Дамагаючыся прызнаньня крыўдаў, якія чыняць нам іншыя, мы павінны ўсьведамляць сабе, што мы й самі бывалі крыўдзіцелямі, і яшчэ давядзецца нам некалі прасіць у нашых слабейшых братоў прабачэньня".

**Ул. Ц.**

